ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 47 (146) 15 - 21 сьнежня 1995 г. Кошт 600 рублёў

*ШТО ЗЬНІКНЕ ЎСЬЛЕД ЗА СЬМЯТАНАЙ?* - ст. 3.

*ЗЛОТЫ ЗАМЕНІЦЬ ДОЛАР?* - ст. 4.

*"КАМУНАЛЬНІК" ПАЕДЗЕ Ў ПАРЫЖ!* - ст. 8.

*ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск - Варшава - Масква - Санкт-Пецярбург.*

## ВЯРХОЎНЫ САВЕТ У ВЫНІКУ II ТУРУ ВЫБАРАЎ 10 СЬНЕЖНЯ АБРАНЫ. ГОРАДНЯ НЯ МАЕ Ў ІМ НІВОДНАГА ПРАДСТАЎНІКА.

**Вынікі II туру паўторных выбараў дэпутатаў Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь**

| Назва і нумар выбарчай акругі | % прын. удзел у галасав. | Прозьвішча кандыдата | Галасавала | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | за | | супраць | |
| | | | кольк. | % | кольк. | % |
| Гарадзенская-Болдзінская 121 | 50,04 | С.Гараеў | 6632 | 42,0 1 | 9044 | 57,29 |
| | | Г.Осіпава | 6134 | 38,85 | 9542 | 60,44 |
| Гарадзенская-Горкаўская N 12 2 | 44,11 | В.Бурбіцкі | 6093 | 42,5 | 8156 | 56,89 |
| | | С.Мальчык | 6445 | 44,96 | 7804 | 54,44 |
| Гарадзенская-Дзяржынская N 123 | 45,43 | Ч.Беляўск і | 7352 | 52,18 | 6607 | 46,89 |
| | | В.Задаля | 4714 | 33,46 | 9245 | 65,62 |
| Гарадзенская-Пралетарская N 124 | 41,6 | К.Жынь | 4846 | 32,9 | 9675 | 65,9 |
| | | А.Танкевіч | 7834 | 53,3 | 6687 | 45,5 |
| Гарадзенская-Прынёманская N 125 | 42,7 | М.Маркевіч | 6302 | 45,1 | 7528 | 53,9 |
| | | В.Жукава | 5482 | 39,2 | 8348 | 59,7 |
| Гарадзенская-Сувораўская N 126 | 39,3 | І.Нячай | 4519 | 36,1 | 7839 | 62,7 |
| | | Л.Школьнік | 5446 | 43,5 | 6912 | 55,3 |
| Гарадзенская сельская N 127 | 51,7 | В.Ражко | 11452 | 71,4 | 3371 | 21,02 |
| Лідзкая-Чырвона-армейская N 133 | 54,1 | Я.Енка | 1082 | 56,6 | 7988 | 41,8 |
| | | С.Лазарэві ч | 5880 | 30,7 | 12929 | 67,6 |
| Лідзкая-Камса-мольская N 134 | 46,1 | С.Суднік | 6201 | 38,5 | 9492 | 58,3 |
| | | П.Ярошка | 7849 | 48,2 | 7914 | 48,6 |
| Слонімская-Савецкая N 140 | 57,9 | М.Дмухоўскі | 9669 | 54,9 | 7934 | 45,1 |
| | | А.Якімовіч | 5348 | 30,4 | 12255 | 69,6 |
| Астрынская N 145 | 73,85 | С.Домаш | 12318 | 72,6 | 4622 | 27,2 |
| | | А.Снапкоў | 2978 | 17,5 | 13962 | 82,3 |
| Па вобласьці | 48,7% | | | | | |

Як бачым, большасьць жыхароў Гарадзеншчыны ў чарговы раз выбары праігнаравала. Не пашкадавалі яны ні чарговых соцень мільярдаў рублёў, якія фактычна змарнаваны, не пабаяліся прамога прэзідэнцкага праўленьня... Словам, засталіся пры сваіх інтарэсах.

Зыходзячы з вынікаў галасаваньня, можна з упэўненасьцю сьцьвярджаць, што, па прафесійнай прыкмеце, выбаршчыкі найбольш шануюць дактароў і міліцыянераў. Палітычныя сімпатыі прыблізна пароўну на баку кандыдатаў Народнага Фронту і камуністаў (за першых у асноўным галасавалі людзі ва ўзросьце да 45 гадоў, за апошніх - звыш 45). У сярэднім, пятая частка (ад 10 да 28%) тых, хто прыйшоў да выбарчых скрынак галасавала супраць усіх.

З гэтага вынікае, што ў Смаргоні, Слоніме, Лідзе і Горадні паўнамоцнай і легітымнай савецкай улады на ўзроўні гарадоў і вобласьці больш не існуе. Горадня, акрамя таго, ня мае ніводнага прадстаўніка ў Вярхоўным Савеце.

Ужо сёньня можна канстатаваць чым падобная раскладка абернецца заўтра. Па-першае, людзі засталіся сам насам з «вертыкальлю» -кантрольныя функцыі за дзейнасьцю апошніх спаўняць няма каму. Па-другое, пры «дзяльбе» дзяржаўнага бюджэту найбольш абдзеленымі, відавочна, застануцца тыя рэгіёны, якім усё «да лямпачкі». Па трэцяе, у будучых законах інтарэсы і сьпецыфіка рэгіёну (поліканфесійнасьць, блізасьць мяжы і г.д.) застанецца «па-за бортам».

Разам з тым, Вярхоўны Савет абраны. Ужо адно гэта дазваляе цяпліцца хоць нейкай надзеі на лепшую будучыню. З чым вас усіх і віншуем!

**Другі тур паўторных выбараў праходзіў у 119 выбарчых акругах. Выбары адбыліся ў 76, абрана 59 дэпутатаў. Па Брэсцкай вобласьці прагаласавала 56,7% выбаршчыкаў, Віцебскай - 48,2, Гомельскай - 56,4, Гарадзенскай - 48,6, Магілёўскай - 57,8, Менскай - 54,5 працэнтаў. Па гораду Менску прыйшло да выбарчых урнаў 48,9 працэнта. Усяго працэнт яўкі выбаршчыкаў на другі тур паўторных парламанцкіх выбараў складае 52,4 працэнта.**

Сярод абраных - 31 беспартыйны і 28 партыйных. Па партыйнай прыналежнасьці дэпутаты разьмеркаваліся наступным чынам: лідыруюць камуністы - 10 мандатаў, Аб'яднаная Дэмакратычная партыя - 4, Грамадзянская Партыя - 2, Партыя Народнай Згоды - 5, Партыя Агульнабеларускага адзінства і згоды - 2, Сацыяльна-спартыўная партыя - 1, Беларуская партыя працы - 1, Экалагічная партыя - 1, Беларуская Народная Партыя - 1, Беларуская Сацыял-Дэмакратычная Грамада - 1.

Па абласьцях: У Брэсцкай вобласьці пасьля першага туру паўторных выбараў незапоўненых было 16 акругаў, 10 сьнежня выбары адбыліся ў 13 акругах, абрана - 8 дэпутатаў. У Віцебскай вобласьці выбары праходзілі ў 11 акругах, у 7 адбыліся, абрана 5 дэпутатаў. У Гомельскай вобласьці праходзілі выбары ў 14 акругах, у 11 адбыліся, абрана 8 дэпутатаў. У Гарадзенскай вобласьці выбары праходзілі ў 11 акругах, адбыліся ў 5, абрана 4 дэпутаты. У Магілёўскай вобласьці выбары праходзілі ў 14 акругах, адбыліся ў 13, абрана 9 дэпутатаў. У Менскай вобласьці выбары праходзілі ў 14 акругах, адбыліся ў 11, абрана 10 дэпутатаў. У Менску выбары праходзілі ў 39 акругах, адбыліся ў 16, абрана 15 дэпутатаў.

Такім чынам, парламант у Беларусі абраны. Усяго ў Вярхоўным Савеце з улікам вясеньніх выбараў налічваецца 198 дэпутатаў. Разьмеркаваньне дэпутацкіх месцаў па асноўных партыях: прадстаўнікі ПКБ - 42; Аграрнай партыі - 34; Аб'яднанай Грамадзянскай Партыі - 7; Партыі Народнай Згоды - 8; саюзьнікі ПНЗ па блоку Сацыл-Дэмакратычны Саюз -беларуская Сацыял-Дэмакратычная Грамада -2, Партыя Агульнабеларускага адзінства і згоды - 2.

Прадстаўнікоў ад БНФ у Вярхоўным Савеце 13 скліканьня пакуль няма. Вакантнымі застаюцца яшчэ 62 месцы ў парламаньце.

**СІМ**

Дзякуй усім, хто падтрымаў нашыя кандыдатуры на выбарах у Вярхоўны Савет. Жыве Беларусь!

Станіслаў Суднік, Сяргей Мальчык, Сяргей Лазарэвіч, Аляксей Якімовіч, Кастусь Жынь, Валеры Задаля, Мікола Маркевіч.

## ПАДРАБЯЗНАСЬЦІ ТРАГІЧНАГА ЗДАРЭНЬНЯ ВЫСЬВЯТЛЯЮЦЦА

**Пазаўчора, 13 сьнежня, адбылося пахаваньне начальніка Ўпраўленьня аховы здароўя аблвыканкаму сп.Уладзіміра Белазерцава.**

Падрабязнасьці здарэньня ахутаныя цемрай патаемнасьці. Учора, у тэлефоннай размове з карэспандэнтам «Пагоні», пракурор вобласьці сп.Цярэшчанка сказаў, што ў пракуратуры няма яшчэ нават заключэньня экспертаў аб прычыне сьмерці сп.Белазерцава. Як вядома, яго труп быў знойдзены а 3-й гадзіне ночы ў двары будынку аблвыканкаму. Па папярэдніх дадзеных гэта было самазабойства, матывы якога высьвятляюцца. Аднак ужо зараз узьнікаюць некаторыя пытаньні. Так, з крыніц, заслугоўваючых даверу, стала вядома, што ў той трагічны вечар сп.Белазерцаў з жонкай зьбіраўся на дзень нараджэньня. Не дачакаўшыся мужа, жонка падняла трывогу. Увайшоўшыя ў службовы кабінет на сёмым паверсе людзі адразу адчулі холад ад расчыненага акна...

Што прымусіла чалавека раптоўна вырашыць разьвітацца з жыцьцём? Дый ці было гэта самагубства? Магчыма, пра гэта зможа адказаць зьмест лістоў, па некаторых зьвестках, пакінутых на адрас старшыні аблвыканкаму, калег па працы і сям'і...

Рэдакцыя «Пагоні» прыносіць свае спачуваньні родным і блізкім нябожчыка.

**В.ДРЭМА.**

## БУРЖУІ НОВЫЯ, А РАБЧЫКІ ЎСЁ ТЫЯ Ж

Адгаманіла выбарчая кампанія, а на слупах і тэлефонных апаратах засталіся паперкі з самымі разнастайнымі заклікамі. Сярод іх і чарговыя пагрозы «Очищения». Радкі Маякоўскага раяць буржуям есьці рабчыкаў і ананасы, а словы славутай некалі песьні клічуць на барацьбу. Цікавыя радкі. Тым больш, што друкар - «ачышчэнец» паленаваўся растлумачыць, каго ён меў на ўвазе пад буржуямі, з якімі трэба змагацца. Мабыць, гэта былыя камуністы, што скралі ўсё, што толькі было магчыма, а цяпер прымушаюць галодны народ прыгадваць савецкія часы, як райскі завулак гісторыі? Старая песьня. Але жыцьцё не стаіць на месцы. І чамусьці вядомая з дзяцінства мелодыя выклікае зусім новыя словы:

*Устань, Краіна Вольная!*
*Прымі няроўны бой*
*З калонай пятай чорнаю,*
*Са здрадаю жывой.*

*Імперыі агромністай*
*Абрабаваць ня дай*
*Зямлю сваю цудоўную,*
*Наш непаўторны край...*

**Глеб КАЎБАСІНСКІ.**

*ПРАЦЯГВАЕЦЦА ПАДПІСНАЯ КАМПАНІЯ!*

На **"ПАГОНЮ"** Вы можаце падпісацца ў любым аддзяленьні сувязі. Кошт падпіскі на паўгоддзе - 48 тысяч рублёў, на квартал - 24 тысячы, на месяц - 8 тысяч рублёў.

**Не адкладвайце на заўтра тое, што можна зрабіць сёньня!**

ф.сп-1

Міністэрства сувязі Беларусі
"Белсаюздрук"

**АБАНЭМЭНТ** на газэту 63124

ПАГОНЯ

Колькасьць камплектаў 1

на 1995 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | X | X | X | | | | | | |

Куды ____ (паштовы індэкс) ____ (адрас)

Каму ____ (прозьвішча, ініцыялы)

ПВ | Месца | літэр

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА** на газэту 63124

ПАГОНЯ

| Кошт | падпіскі | 48000 руб. | Колькасьць камплектаў | 1 |
|---|---|---|---|---|
| | пера-адрасоўкі | руб. | | |

на 1995 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | X | X | X | | | | | | |

Куды ____ (паштовы індэкс) ____ (адрас)

Каму ____ (прозьвішча, ініцыялы)

# ЗАЯВА

Перыяд нацыянальнай ганьбы перажывалі ня толькі беларусы. Нейкі паранаідальны абсурд запоўніў усю нашу дзяржаўную палітыку і грамадзкія дачыненьні. Аднак у кожнага народа, які ў кожнага чалавека, своя мяжа цярпеньня.

Мая мяжа цярпеньня пяройдзена даўно. Сьвятое ніколі ня кідаюць пад ногі сьвіньням і не дазваляюць таптаць. На шматпакутнай Беларусі, некалі спаленай і здратаванай гітлераўцамі, знайшоўся чалавек, які праз 50 гадоў пасьля вайны адкрыта пачаў усхваляць Гітлера. Гэта той чалавек, якога выбралі за прэзідэнта Беларусі ў першую чаргу тыя людзі, што пацярпелі ад вайны. Вось што ён сказаў:

«Не всё только плохое связано в Германии и с известным Адольфом Гитлером. Он перечеркнул всё хорошее, что он сделал в Германии, всей внешней политикой... Ведь немецкий порядок формировался веками. При Гитлере это формирование достигло наивысшей точки. Это то, что соответствует нашему пониманию президентской республики и роли в ней президента».

Удумайцеся: «это то, что соответствует нашему пониманию...» Агідна і гадка.

Гітлераўскі парадак і «известного» Адольфа Гітлера ўхваляе той чалавек, па волі якога ў травені гэтага года перад выбарамі быў зроблены і двойчы паказаны па тэлебачаньні ілжывы фільм «Нянавісьць. Дзеці хлусьні», дзе нізка паклёпнічалі на мяне, хлусьліва параўноўваючы з фашыстамі.

Вы, спадар Лукашэнка, што ўхваляе Гітлера, ня варты аднаго воласа з галавы майго бацькі, які загінуў пад Катавіцамі ў барацьбе з гітлераўцамі, вы ня варты аднаго ўздыху майго дзядзькі, што прайшоў з 1941-га ўсю вайну ў танку «КВ» і згарэў у ім 9 лютага 1945 года пад Мэркіш Фрыдлянд ва Усходняй Прусіі. Калі б яны ўсталі - яны б вам паказалі Гітлера.

У тысячах беларускіх сем'яў яшчэ жыве дух загінуўшага мужа, бацькі і сьвятая памяць пра іх. Знайшоўся чалавек, які наплюваў на гэтую памяць.

Я зьвяртаюся да адукаваных людзей Беларусі, да тых, хто здольны нешта разумець, рабіць высновы з нацыянальнай і сусьветнай гісторыі. Я пра гэта пісаў і казаў неадназарова: Беларусь пад пагрозай усталяваньня дыктатуры, прытым надзвычай дурной дыктатуры, якая маральна зганьбіць нас на цэлыя пакаленьні, прынізіць нашу нацыянальную супольнасьць, адкіне далёка назад у эканамічным, грамадзкім і палітычным разьвіцьці.

Адукаваныя людзі, інтэлігенцыя, інтэлектуалы ёсьць лепшыя прадстаўнікі народу. Ствараючы будучыню, народ выяўляецца і жыве ня ў люмпэне, ня ў хаме, а ў сваіх лепшых прадстаўніках. Нельга дапусьціць зноў панаваньня хама, бо гэта прывядзе да нянавісьці і разбурэньня. Нельга дапусьціць распаўсюджаньня камуна-фашызму на Беларусі, яго імперыялістычнай квазіславянскай ідэалогіі, усталяваньня прагітлераўскага дыктатарскага рэжыму.

Я хацеў бы асабліва перасьцерагчы ад лёгкадумнага стаўленьня да авантурных заяваў і паводзінаў Лукашэнкі, ад іранічных усьмешак і пацьвельваньня з чалавечай абмежаванасьці. Справа не ў абмежаванасьці, а ў паўнаце ўлады, якая не ў руках тых, хто пасьмейваецца. Пасьміхаліся з Леніна, Сталіна, Гітлера, афрыканскіх палкоўнікаў і іншых. Ніхто іх напачатку сур'ёзна не ўспрымаў. Потым расплачваўся ўвесь народ.

Неабходна стварэньне антыфашысцкай антыдыктатарскай кааліцыі ўсіх здаровых сілаў беларускага грамадзтва - яку грамадзянскай супольнасьці, так і ў сістэме ўлады.

Мы, сучасьнікі, павінны перш за ўсё думаць пра будучыню Беларусі, асабліва тады, калі будучыня яе ў небясьпецы.

**Зянон ПАЗЬНЯК.**

## ПРА НОВЫ ПАРЛАМАНТ

**Старшыня Аб'яднанай Грамадзянскай Партыі Беларусі Станіслаў Багданкевіч, каментуючы другі тур паўторных выбараў, адзначыў: «Я лічу, што, нягледзячы на хвалі дэзінфармацыі, падману і ілжы, поўнае маўчаньне тэлебачаньня і радыё, народ зразумеў, што нам патрэбна супрацьвага. У фракцыі Аб'яднанай Грамадзянскай Партыі ўжо ёсьць 7 чалавек, і можа быць будуць яшчэ дзякуючы правінцыі. Канешне, гэта вельмі складаны парламант, але я спадзяюся, што ён зможа прафесійна працаваць».**

На пытаньне, з кім зьбіраецца супрацоўнічаць фракцыія Аб'яднанай Грамадзянскай Партыі, спадар Багданкевіч адказаў: «Без сумневу, з аграрыямі. Не адмаўляемся і ад супрацоўніцтва з камуністамі. Я спадзяюся, што парламант зможа стаць супрацьвагай прэзідэнту. Мы будзем цьвёрда і жорстка стаяць на ахове права і Канстытуцыі».

## СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ ЛІЧЫЦЬ, ШТО НОВЫ ПАРЛАМАНТ ЗДОЛЕЕ ПРАЦАВАЦЬ

**Каментуючы другі тур паўторных парламанцкіх выбараў экс-сьпікер беларускага парламанту заявіў: «Думаю, што для тых надзвычай цяжкіх умоваў, у якіх праходзілі выбары, гэта выключны вынік. Адбылося неверагоднае, я вельмі задаволены, што здаровы сэнс перамог і народ прыйшоў на выбары. Гэта вельмі магутная падтрымка, насуперак маразматычным памкненьням уладаў супраць дэмакратыі, гэта рашучы паварот да лепшага».**

На пытаньне, ці не зьбіраецца спадар Шушкевіч выстаўляць сваю кандыдатуру на пост сьпікера, ён адказаў: «Я буду працаваць і здольны на любую працу». На пытаньне, як, на яго думку, ці не зьбіраецца Лукашэнка перагледзець вынікі выбараў, спадар Шушкевіч адказаў: «За хворага чалавека паручыцца нельга».

## ПЕРШАЕ ПАСЕДЖАНЬНЕ ПАРЛАМАНТУ МОЖА АДБЫЦЦА Ў КАНЦЫ СЬНЕЖНЯ

**На думку сьпікера Вярхоўнага Савету Мечыслава Грыба, правядзеньне першага паседжаньня парламанту рэальна паміж 26-м сьнежня і 3-м студзеня.**

Каментуючы адносіны новага парламанту да прэзідэнта, спадар Грыб заявіў: «Адносіны павінны быць на падставе Канстытуцыі. У нас ёсьць законы, не адступаць ад іх трэба ні нам, ні прэзідэнту».

**СІМ**

## ЧЫРВОНА-ЗЯЛЁНЫ З АРНАМАНТАМ

**Чырвона-зялёны з бел-чырвона-белым арнамантам - колеры лукашэнкаўскага сьцяга. Поўнасьцю адпавядае гэтым колерам і афарбоўка новага беларускага парламанту.**

Чырвоныя камуністы з зялёнымі аграрыямі складаюць аснову. Можна засумнявацца толькі ў суадносінах паміж імі, але тут і сам чорт не разьбярэцца, хто з камуністаў прайшоў у Вярхоўны Савет як аграрый, а хто з аграрыяў як камуніст. Збоку прыляпілася 5% стракатай апазіцыі, якая воляй лёсу зьядnала лібералаў, сацыял-дэмакратаў ды іншых.

Камуністычна-калгасны сьцяг сёньня цешыць Лукашэнку. Паглядзім, ці так жа ўсьцешна будзе яму ад камуністычна-калгаснага парламанту.

**Станіслаў СУДНІК.**

## СКАНДАЛ У ДЗІЦЯЧЫМ САДКУ

**У адным дзіцячым садку нядаўна адбылося здарэньне: пачалі дзеці дзяліць новую вялікую прыгожую гульню. Дзялілі доўга і ўпарта - бо вельмі гульня цікавая была. Нават да бойкі справы даходзілі. А колькі ляманту было! Нарэшце, атрымаў гэтую гульню той, хто гучней за ўсіх крычаў і абяцаў усім падзяліцца гэтаю гульнёю. Дзяўчынкам абяцаў, што дасьць лялькі, хлопчыкам, што ўсім хопіць мячыкаў і аўтаматаў. А ўжо калі ўся гульня запрацуе - дык усім будзе добра і хораша. А галоўнае - тых, хто ўжо набраў сабе ў кішэні цацак з агульнай скрынкі, ён і блізка не дапусьціць да гульні і ўсе цацкі адбярэ.**

Аддалі гэтаму спрытняге гульню і пачалі чакаць, што *зараз будзе*.

А ён абраў сабе некалькі хлопчыкаў, якія дужэйшыя за другіх і нікога да гульні не пускае. Але вось як гэтую гульню нават уключыць, ня ведае. Ён і гэтак, і так - а справа ня йдзе. Ужо пачаў гэтую гульню цудоўную ламаць, а вынікаў ніякіх. Тады адабраў ён са сваімі паплечнікамі ў астатніх цацкі-лялькі. Гэта, кажа, патрэбна, каб гульня запрацавала. Але дзе там! Цікава толькі, што ў тых, у каго многа чаго было, амаль што нічога ня ўзяў - забаяўся, ці што.

Ужо пачалі дзеці бурчаць, але і тут ён знайшоўся. Маўляў, не працуе гульня, бо ня ў той колер яна пафарбавана. Трэба колер зьмяніць. Ізноў паверылі яму. Перафарбавалі гульню, але яна ні з места. Ужо пачала гульня рыпець, нават нейкія часткі з яе валяцца, а гэты ўсё круціць гульню. Ужо нават адзін раз токам яго стукнула. А ўсё не супакойваецца, крычыць: «Я галоўны, мяне вы абралі, слухайце мяне». І дагэтуль усё гэта цягнецца. Вось толькі гульню шкада.

**P.S.: Усё апісанае ня мае ніякага дачыненьня да спраў у Беларусі і да яе прэзідэнта - шаноўнага Лукашэнкі А.Г.**

## НАРОДНЫ ФРОНТ НАСТРОЕНЫ АПТЫМІСТЫЧНА

**17 сьнежня адбылася прэс-канферэнцыя кіраўнікоў БНФ па выніках другога туру паўторных парламанцкіх выбараў. Нягледзячы на тое, што ў Вярхоўны Савет 13 скліканьня і па выніках паўторных выбараў не было абрана аніводнага прадстаўніка БНФ, кіраўніцтва Фронту даволі аптымістычна ацаніла вынікі выбараў.**

У прыватнасьці, каментуючы вынікі выбарчай кампаніі, лідар Народнага Фронту З.Пазьняк, між іншым, сказаў: «Гэтыя выбары праходзілі ў сітуацыі, калі прэзідэнт Лукашэнка публічна засьведчыў свае сімпатыі да гітлераўскага рэжыму. На мой погляд, гэта ў значнай ступені паспрыяла таму, што многія людзі прыйшлі на выбары, баючыся ўсталяваньня дыктатуры ў Беларусі. Я рады, што ў грамадзтве ёсьць здаровыя сілы і здаровы дух. Тое, што на гэты раз камуністы атрымалі значна менш галасоў, таксама сьведчыць пра абуджэньне здаровага сэнсу. Асабліва я хацеў бы спыніцца на нашай стратэгіі і тактыцы. Напярэдадні выбараў мы паставілі стратэгічную задачу правесьці ў парламант людзей, якія будуць стаяць за незалежнасьць Беларусі. Нам, праўда, не ўдалося дамовіцца аб каардынацыі дзейнасьці з усімі партыямі. Найбольш плаадтворным аказалася супрацоўніцтва з Аб'яднанай Грамадзянскай Партыяй (АГП). Мы ня выставілі ў супрацьвагу прадстаўнікам АГП сваіх кандыдатаў і зрабілі ўсё, каб наш электарат іх падтрымаў. І тое, шо ў парламант былі абраны Багданкевіч, Карпенка, Шлыньдзікаў, зьяўляецца вынікам падтрымкі і нашага электарату. У нас няма ніякіх паражэнчых настрояў. Мы бачым, што парламант сфармаваны і будзе працаваць. Прэзідэнт пацярпеў маральнае фіяска».

Па словах намесьніка старшыні БНФ Вінцука Вячоркі, вынікі выбараў зьяўляюцца яскравым сьведчаньнем таго, што намеціліся зрухі ў масавай сьвядомасьці людзей, якія пачынаюць разумець, што без дэмакратыі, без нармальнага паўнацэннага функцыянаваньня ўсіх галін улады ніякай перспэктывы ў нашай краіны няма. Вінцук Вячорка таксама зазначыў: «Калі трактаваць вынікі выбараў з пункту гледжаньня палітычнага рэйтынгу БНФ, дык высьветлілася, што ў параўнаньні з вясеньняй выбарчай кампаніяй, Народны Фронт набраў ачкоў больш. Нашыя кандыдаты ў многіх акругах былі першымі і значна апярэджвалі супернікаў з ПКБ, прычым часта вынікі выбараў вызначалі некалькі дзесяткаў галасоў. Напрыклад, намесьнік старшыні БНФ Ю.Беленькі ўпэўнена лідыраваў, але для таго, каб выбары адбыліся, не хапіла 69 чалавек. У аналагічнай сітуацыі апынулся таксама іншая сябры БНФ. В.Голубеву, каб выбары адбыліся і ён стаў дэпутатам, не хапіла 25 чалавек, М.Кобасе - 92».

**СІМ**

## УЗАКОНЕНАЯ ЎЛАДА НАД ІНШЫМІ ПАСКАРАЕ РАЗЬВІЦЬЦЁ ПАРАНОІ

**Нядаўна ў бібліятэку Гарадзенскага медыцынскага інстытута паступіў новы падручнік па псіхіятрыі (М.В.Коркіна, Н.Д. Лакосіна, А.Е.Лічко. Псіхіятрыя. - 1995) У адным з яго разьдзелаў, прысьвечаным паранаяльнаму (па міжнароднай клясіфікацыі хвароб - параноідному) расстройству асобы чалавека напісана наступнае.**

«Адзнакамі яго (параноіднага расстройства - А.А.) лічацца надзвычайная чульлівасьць хворых да **незадавальненьня сваіх дамаганьняў**; злапамятнасьць, не дазваляючая прабачаць абразы, крыўды і нанясеньне шкоды; падазронасьць і імкненьне скажаць нейтральныя альбо сяброўскія дзеяньні іншых, прадстаўляючы іх як злашкодныя альбо праявы пагарды; ваяўнічае, суправаджаемае пагрозамі, адстойваньне сваіх правоў у кожнай сітуацыі; **надзвычайная самаўпэўненасьць, адчуваньне ўласнай важнасьці**; паглынутасьць думкамі, што ўсе знаходзяцца ў змове супраць іх.

Важнейшай рысай гэтага тыпу (расстройства асобы хворых) зьяўляецца ўпэўненасьць у сваёй перавазе над іншымі, упэўненасьць у першаступеннай важнасьці таго, чым яны занятыя, таго, што яны зрабілі. Таму... выяўленьне распаўсюджаных парушэньняў і нават звыклых недахопаў (прадстаўляецца імі) - ашаламляльнымі выкрыцьцямі, іх (хворых) фармальныя патрабаваньні - высока прынцыповымі. Яны заўсёды прэтэндуюць на выключнае становішча, на тое, каб усё рабілася так, як яны лічаць неабходным. **Прэтэндуючы на лідарства, звыкла аб'ядноўваюць вакол сябе людзей недалёкіх і незадаволеных сваім становішчам.** Не атрымліваючы прызнаньня сваіх «выдатных» якасьцяў ды дзеяньняў, задавальненьня сваіх дамаганьняў ды патрабаваньняў, азлабляюцца, усюды бачаць ворагаў і зайздросьнікаў, зламысьных козні супраць іх (хворых). **Пачынаюць вытанчана і нават бязьлітасна перасьледаваць сваіх уяўных ворагаў і сапраўдных супернікаў**, лічачы, што тыя перасьледуюць іх.

Паранаяльнаму разьвіцьцю спрыяюць сацыяльныя ўмовы, у якіх пануе фармалізм, дактрынёрства, чынапачытаньне, таталітарны рэжым, нецярплівасць да іншадумства... **Паскарае разьвіцьцё** (хваробы), як адпор (іншых) у адказ на дамаганьні (хворых), гэтак і **сітуацыя, калі ў руках схільнага да паранаяльнага разьвіцьця суб'екта аказваецца ўзаконеная ўлада над іншымі.** У гэтых умовах на фоне канфліктных сітуацый паранаяльныя ідэі, будучы звышкаштоўнымі (для хворага) могуць пераўтварацца ў трызьнёвыя (вар'яцкія) - трызьненьні перасьледу, вялікасьці... Аднак галюцынацыі адсутнічаюць. Падобныя трызьнёвыя псіхозы альбо адносяць да рэктыўных параноідаў, альбо лічаць асобным псіхічным захворваньнем - паранояй...

Паранаяльнае разьвіцьцё звыкла разгортваецца ва ўзросьце 30-40 гадоў - у перыяд дасягненьня сацыяльнай сьпеласьці і слабее толькі ў старасьці».

**Прачытаўшы гэта, перада мной паўстаў вобраз аднаго вядомага чалавека. А як у вас?**

**Алесь АСТРОЎСКІ, доктар медыцынскіх навук.**

ГРАМАДЗТВА

# ВЫСПА ФЕАДАЛІЗМУ Ў ЭПОХУ ТАТАЛІТАРЫЗМУ

**Усе палітычныя аглядальнікі, дэмактарычныя і ня вельмі, нашыя і замежныя ў сваіх выказваньнях зараз сыходзяцца на адным - на Беларусі ўсталяваўся таталітарны рэжым, завершана фармаваньне таталітарнай сістэмы ўлады, фармуецца таталітарнае грамадзтва. Але ёсьць у беларускай супольнасьці грамадзкі арганізм, для якога таталітарызм канца ХХ-га стагоддзя - гэта вяршыня дэмакратыі, бо ўнутраныя дачыненьні гэтага арганізму пабудаваныя так, што інačай як феадальнымі іх не назавеш. Што ж гэта за рэлікт на целе эўрапейскай краіны?**

Гэта Узброеныя Сілы Рэспублікі Беларусь. Мы бачым, колькі намаганьняў прыкладае А.Лукашэнка, каб захаваць на Беларусі традыцыі і ўклады часоў СССР. Узброеныя Сілы ж не зрабілі ні кроку наперад з часоў Савецкай Арміі, захаваўшы для гісторыі ўсе яе ўстоі, усю сістэму дачыненьня чалавека і вайсковай машыны, якая характарызуецца поўнай васальнай залежнасьцю малодшчых ад старэйшых, поўным бясправем, дрымучым беззаконьнем. Мы ўсе выдатна памятаем, што ў часы СССР у Савецкай Арміі ня дзейнічалі законы СССР, акрамя крымінальнага кодэксу. Усё рэгулявалася загадамі міністра абароны. Нават набор жаўнераў ішоў адпаведна з загадамі міністра. Юнак, які паступаў у вайсковую вучэльню, дабраахвотна станавіўся на 25, а то і болей гадоў прыгонным, заціснутым ў строгія рамкі статутаў і загадаў, нічога ня мог зьмяніць у сваім жыцьці, акрамя як пры стараннай службе падняцца па «службовых драбінах» і атрымаць магчымасьць ня толькі падпарадкоўваца, але і прыгнятаць самому больш малодшых. Пакінуць Узброеныя Сілы можна было альбо ў цынкавай труне, альбо з «воўчым білетам».

Тое самае мы маем і зараз ва Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь, з той толькі розьніцай, што акрамя таго, што афіцэра могуць не адпусьціць, яго яшчэ могуць і выгнаць без усялякай прычыны і ў любы момант, асабліва, калі ён патрыёт і сімпатызуе ідэі беларускай незалежнасьці. А калі ён звычайны беларус з абыякавымі адносінамі да той незалежнасьці і жадае толькі аднаго, - каб трохі лепей жыць, не заядаўся з начальствам, старанна цягнуў сваю лямку, то наканавана яму быць у прыгоне поўны тэрмін.

Вось жывы жыцьцёвы прыклад такога прыгоннага - старэйшага лейтэнанта Аляксандра Аліферчыка.

Скончыўшы ў 1992 годзе Пушкінскую вайсковую вучэльню па сьпецыяльнасьці «энергетык», Аляксандр быў размеркаваны ў Ліду. Вучыў у вучэльні ён тыя ўстаноўкі, якія на Беларусі ёсьць толькі ў расейскіх ракетных войсках стратэгічнага прызначэньня. Каб лягчэй уявіць, што гэта такое, прывядзем прыклад. Яшчэ будучы курсантам, Аляксандр лазіў з венікам у гільзу цыліндра аднаго з дызеляў, каб прыбраць адтуль рэшткі разьбітага стопарнага кальца. У Лідзе ён быў прызнаны «амаль па сьпецыяльнасьці», стаў намесьнікам камандзіра аўтароты в/ч 07032 па тэхнічнай частцы, праўда, з перспектывай у будучым стаць усё-такі энергетыкам. Але раптам у 1995 годзе было выршана в/ч 07032 скараціць. Гледзячы на бесперсьпектыўнасьць далейшай службы, Аляксандр 25 траўня напісаў рапарт на звальненьне, паколькі пасада яго скарачалася і ён нават па савецкіх законах мог гэта зрабіць. Ды ня тут тое было. Скарачэньне часткі раптам было перайменавана ў арганізацыйнае мерапрыемства і старэйшы лейтэнант Аліферчык быў накіраваны ў радыёлакацыйную роту, што ў Трабах, дзяжурным пункта кіраваньня аддзяленьня кіраваньня. Гэта настолькі блізка яму па сьпецыяльнасьці, як танкісту касьмічны карабель. А разам з тым мае і проігрыш у грошах, адсутнасьць жыльля і працы для жонкі. Але гэта нікога не цікавіць.

Абапіраючыся на артыкулы 6 і 9 Закона «Аб статусе вайскоўца», дзе запісана, што «вайскоўцы карыстаюцца правамі, прадстаўленымі грамадзянам Рэспублікі Беларусь Канстытуцыяй РБ» і замацоўваецца права зволіцца з Узброеных Сілаў. Старэйшы лейтэнант Аліферчык падаў у суд на каманьдзіра, які адмовіў яму ў звальненьні (дарэчы, на таго самага генерала Кастэнку, які аддаў загад зьнішчыць амерыканскі паветраны шар). Але Гарадзенскі міжгарнізонны вайсковы суд, як і трэба было чакаць, апраўдаў генерала. Апраўдае генерала і Беларускі вайсковы суд, куды Аліферчык накіраваў касацыйную скаргу.

Што ж рабіць вайсковаму чалавеку? Застаецца выпрабаваны з савецкіх часоў спосаб: асьцярожна, каб ня сьпіцца на самой справе, піць гарэлку і не хадзіць на службу, але таксама асьцярожна, каб не пасадзілі за дызертырства. Тады яму сьвеціць быць звольненым за дыскрэдытацыю «высокага» гонару і годнасьці беларускага афіцэра. Але для гэтага спатрэбіцца не адзін месяц у той час, як сотні патрыятычна настроеных афіцэраў звальняліся на працягу некалькіх дзён, звальняліся тыя, хто не за грошы, жыльлё ці чыны, але за ідэю ўмацаваньня Беларускага Войска, стварэньня сапраўды нацыянальных Узброеных Сілаў хацелі верай і праўдай служыць Бацькаўшчыне. Усё, як і мае быць у краіне таталітарнага абсурду. Хто хоча служыць - тых выгнаць, хто ня хоча - прымусіць служыць. Добра, што ў свой час у нас адабралі ядзерную зброю. Бо такія палкаводцы і так скамплектаванае войска ня толькі шар зьбіць маглі б, але і цэлую ядзерную вайну пачаць. Толькі б Масква падмірагнула.

Безумоўна, старэйшы лейтэнант Аліферчык ня так, дык гэтак звольніцца, але феадальная сістэма дачыненьняў у Беларускіх Узброеных сілах застанецца. І зноўку будуць дзесяткі і сотні лейтэнантаў, для якіх пасьля пяці гадоў у вучэльні наступае прасьвятленьне і разуменьне, што не туды яны трапілі, што трэба шукаць спосаб рэалізаваць свае канстытуцыйныя і агульначалавечыя правы і абавязкі. І зноў будуць іх адсылаць да пажоўклых загадаў часоў Язава і «пакарэньня Крыма». Будуць мучыцца тыя, хто хоча служыць, будуць мучыцца тыя, хто ня хоча. І глыбока памыляецца той, хто думае, што нехта кінецца нешта мяняць. Феадальнай сістэме служба не патрэбна. Трэба проста, каб афіцэры мучыліся, а з цягам часу навучыліся мучыць другіх. Зьмены могуць наступіць толькі тады, калі стрыжнем вайсковага будаўніцтва на Беларусі стане вялікая нацыянальная ідэя беларускага народу.

**Усяслаў ВОЙНІЧ.**

# СЬВІНЕЙ ТАКСАМА «ПАДТРЫМЛІВАЮЦЬ»

**Магчыма, ужо ў бліжэйшы час у вобласьці будзе створаны пазабюджэтны фонд падтрымкі прадпрымальніцтва. Статут і праект аб стварэньні яго ўжо падрыхтаваныя. Пра гэта паведаміў старшыня абласнога камітэта па антыманапольнай палітыцы Леанід Кардаш. Па яго словах, 100 мільёнаў на фонд выдаткуе абласны Саюз падтрымкі прадпрымальніцтва і па 200 - аблвыканкам і рэспубліканскі Саюз.**

З гэтай нагоды хацелася б адзначыць, што ў нашых умовах, калі камуністычна-аграрная большасьць Вярхоўнага Савету ды прэзідэнт узнамерыліся спыніць «разгул капіталістычнай стыхіі», гэта падтрымка вельмі нагадвае «падтрымку» сьвіней у вясковых гаспадарках. Да таго моманту, пакуль ня прыйдзе час іх закалоць.

**В.Л.**

# СПАБОРНІЦТВА ФЕРМЕРАЎ І КАЛГАСАЎ

У Карэліцкім раёне 13 фермерскіх гаспадарак. За імі замацавана 170 гектараў зямлі. Ураджайнасьць збожжавых і зернебабовых сёлета ў іх склала 17,3 цэнтнера з гектара, а ў калгасах - 32,2. Бульба, наадварот, у фермераў лепшая - 171 ц/га, у калгасах - 149,1. Па бураках зноў наперадзе калгасы - 449,2 ц/га супраць 340 цэнтнераў у фермераў. Што ж, так і павінна быць. Хай спаборнічаюць. Пажадана, каб спаборніцтва распаўсюдзілася і на кошты.

**Зьміцер ХІТРОВІЧ.**

# ГАРАДЗЕНСКІЯ СТУДЭНТЫ ПРЫСЯГНУЛІ...ІВАНУ ЖАХЛІВАМУ

**У Гарадзенскім універсітэце імя Янкі Купалы адбылося пасьвячэньне ў студэнты першакурсьнікаў-гісторыкаў. Прысягу на вернасьць гісторыі ў беларускіх студэнтаў прымаў чамусьці расейскі цар Іван Жахлівы са сваёй сьвітай. Быў выкананы міжнародны гімн студэнтаў на лацінскай мове. А старастам усіх трох груп было прапанавана выпіць па бутэльцы малака...**

Гэтым юнакам і дзяўчатам самім лёсам наканавана быць выпускнікамі 2000 года. Менавіта яны ў першай палове XXI стагоддзя, пакуль вядомага нашым равесьнікам толькі па фантастычным фільмам, будуць вызначаць шляхі разьвіцьця гістарычнай адукацыі і навукі. Ці будуць яны выкладаць і пісаць гісторыю сваёй зямлі і народу, рэгламентаваную зьверху, як гэта давялося рабіць іх папярэднікам, ці ўсё-ткі змогуць абудзіць гістарычную памяць беларусаў, што пакуль не ўдаецца іх сучасьнікам?

**Яўген МАРОЗАЎ.**

# ШТО ЗЬНІКНЕ ЎСЬЛЕД ЗА СЬМЯТАНАЙ?

**Крах Савецкага Саюзу і рэжыму Гарбачова пачаўся з дэфіцыту цукру, выкліканага антыалкагольнай кампаніяй. Сёньня на Беларусі дэфіцыт сьмятаны. Як у незабыўныя старыя часы зьявіліся чэргі і покліч «ня больш аднаго пакета на рукі» зноў залунаў над краінай, якая некалькі гадоў назад вытварала мяса, малака і малочных прадуктаў на душу насельніцтва больш, чым Злучаныя Штаты - сусьветны эталон багацьця й дабрабыту. Дык куды ж дзелася сьмятана?**

Першая прычына банальная: каровы пазапускаліся. У адрозьненьне ад «запуску» заводаў гэтая зьява цалкам натуральная, хаця эфект той жа. Другая прычына глабальная: скарачэньне пагалоўя жывёлы. Карміць няма чым. З калгасаў і саўгасаў вымецены запасы фуражнага збожжа. Сацыялістычны (дармавы) камбікорм не паступае, а на адной саломе малачка не прыбудзе, а каровак убудзе. Таму гаспадаркі ідуць на скарачэньне пагалоўя. За зіму гэтае скарачэньне чакаецца да 30%. У Беларусі няма вінаграднікаў, каб секчы, як пры Гарбачове. Затое, акрамя каровак, ёсьць яшчэ сьвіньні, гусі, качкі... Што зьнікне ўсьлед за сьмятанай?

**Кастусь АЛЬГЯРДОВІЧ.**

# БЕЛАРУСКІЯ ПРАФСАЮЗЫ РЫХТУЮЦЦА ДА ПРАВЯДЗЕНЬНЯ АКЦЫІ ПРАТЭСТУ

**6 сьнежня адбыўся чарговы пленум прафсаюзу працаўнікоў адукацыі. У ходзе выступленьняў прысутныя канстатавалі жабрацкае існаваньне педагогаў, адсутнасьць дзяржаўнай падтрымкі школе і невыкананьне ўладамі раней дадзеных абяцаньняў аб павышэньні зарплаты настаўнікам. Пленумам адзінагалосна быў прыняты зварот да ўсіх педагогаў рэспублікі аб падтрымцы плануемай на 18 студзеня акцыі пратэсту Федэрацыі Прафсаюзаў Беларусі (ФПБ) у сувязі з праводзімым эканамічным курсам, які «вядзе да зьбядненьня народу».**

У рабоце пленума прынялі ўдзел віцэ-прэм'ер Уладзімір Русакевіч і старшыня ФПБ Уладзімір Ганчарык, якія пасьля паседжаньня ад'ехалі на сустрэчу з А.Лукашэнкам. Сустрэча была арганізавана па ініцыятыве прэзідэнта.

На пленуме было паведамлена, што 18 студзеня ў Менску плануецца правядзеньне маніфестацыі агульнай колькасьцю да 10 тысяч чалавек. Аналагічныя акцыі пройдуць ва ўсіх абласных гарадах. Асноўныя патрабаваньні будуць тычыцца падвышэньня мінімальнай зарплаты, прыняцьця дзяржаўнай праграмы па падтрымцы маламаёмых катэгорый грамадзян, забесьпячэньня бесперабойнай працы прамысловых прадпрыемстваў і захаваньня сацыяльных гарантый.

**СІМ**

# ЧАРГОВАЯ СЕРЫЯ «ЭЎРАТРЭЙДА»

**З 11 сьнежня на «Аўтамагнітоле» ідзе ўжо звыклы для гарадзенцаў гандаль абноскамі з Германіі, прывезенымі з Нямеччыны. Да 20 сьнежня многія гарадзенцы могуць хоць такім чынам папоўніць свой сьціплы гардэроб.**

Асноўнымі кліентамі «Эўратрэйда» зьяўляюцца пенсіянеры, маладыя сем'і ды беспрацоўныя. Людзі, якія аддалі ўсё сваё жыцьцё працы і тыя, хто толькі пачынаюць самастойны жыццёвы шлях, пастаўленыя дзяржаваю ў становішча жабракоў і, здаецца, да гэтага стану пачынаюць прывыкаць.

**Вінцук МАЛЬСКІ.**

# ЗАРПЛАТА КАЎБАСОЙ

**«Пагоня» ня раз згадвала, што ў калгасах Івейскага раёну па шмат месяцаў не выплочваецца заробак. У калгасе «Беларусь» знайшлі арыгінальнае выйсьце.**

Тут усім, хто жадае, дазволілі атрымоўваць заробак каўбасой, якую выпускае калгасны падсобны цэх. У ліпені калгаснікі зарабілі каўбасы на 25 мільёнаў рублёў, у жніўні - на 35,4 мільёна, у верасьні - на 36,8 мільёна.

Практычныя івейцы вырашылі, што лепш зьесьці зарплату каўбасой, чым яе «зьесьць» інфляцыя.

**Зьміцер СЬВІСТУНОВІЧ.**

# ПАСЬВЯЧЭНЬНЕ Ў ЛІЦЭІСТЫ

**9 сьнежня, у дзень нараджэньня Максіма Багдановіча, у гарадзенскай сярэдняй школе N 27 прайшла ўрачыстасьць пасьвячэньня ў ліцэісты Беларускага гуманітарнага ліцэя, чатыры класы якога працуюць менавіта ў гэтай школе.**

У перапоўненай актавай зале сабралося шмат вучняў з бацькамі, журналістаў і ганаровых гасьцей, каб паглядзець і падтрымаць апладысьментамі хлопцаў і дзяўчат, што зладзілі тэатралізаванае шоу. Рытуал пасьвячэньня ў ліцэісты правёў гісторык Алесь Госьцеў. Навасьпечаныя ліцэісты супольна прамовілі сьвяточную клятву.





Вучняў і выкладчыкаў павіншавалі дырэктар СШ N27 Людміла Шостка, намесьнік дырэктара Інстытута біяхіміі АН Беларусі Андрэй Майсяёнак і дырэктар галерэі «У майстра» Алена Пілічава. Плануецца, што ў наступным годзе СШ N 27 цалкам ператорыцца ў Беларускі гуманітарны ліцэй.

**Людвік САРОКА.**
**Фота Я.ВАНЮКЕВІЧА.**

 



# СУМЕЖЖА

## ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ ПА-ОЛЬШТЫНСКУ

**Здаецца, стасункі паміж Гарадзенскай філіяй Фонду падтрымкі дэмакратычных рэформаў і Ольштынскім Асяродкам разьвіцьця мясцовай дэмакратыі набываюць трывалы характар. З 4 па 9 сьнежня гарадзенская дэлегацыя гасьцявала ў мазурскім горадзе, знаёмячыся з працэсам польскіх рэформаў у галіне прыватызацыі.**

Была досыць насычанай і заключала ў сабе лекцыі вядучых ольштынскіх прафесіяналаў - эканамістаў, юрыстаў, працаўнікоў мясцовых уладных структураў. Госьці атрымалі магчымасьць вывучэньня польскага досьведу ў працэсе прыватызацыі, азнаямленьня з нюансамі і асаблівасьцямі ольштынскіх рэформаў. Цікава, што ў горадзе, які налічвае 170 тысячаў насельнікаў, не засталося аніводнай дзяржаўнай крамы, усяго 2 непрыватныя гатэлі. На працягу апошніх гадоў былі створаны спрыяльныя ўмовы для прыватызацыі дзяржаўнай і камунальнай маёмасьці. У выніку эканамічнае жыцьцё горада атрымала значныя зрухі і разьвіцьцё. А найвялікшай праблемай застаецца рост беспрацоўя.

Візіт на буйнейшае ольштынскае прадпрыемства «Стоміл» дазволіў пазнаёміцца з дзейнасьцю вядучага ў Польшчы вытворцы пакрышак для тэхнікі. Акцыянернае Таварыства «Стоміл-Ольштын» было створана ў лютым 1992 года ў выніку пераўтварэньня Завода аўтамабільных пакрышак. За час яго існаваньня ўдалося наладзіць агульнапольскую гандлёвую сетку, колькасьць асартыменту вырасла з 116 у 1991-м годзе да 245 у 1994-м і 271 у 1995-м, што складае найбольш вялікую прапанову польскай вытворчасьці шын. Усяго на прадпрыемстве задзейнічана каля 4000 працаўнікоў, звыш 400 асобаў знаходзяцца ў адміністрацыйным штаце. Акрамя таго, на тэрыторыі завода створаны лабараторна-дасьледчыцкі корпус, дзе займаюцца распрацоўкай новых узораў. Сярэдні заробак працоўных складае каля тысячы злотых у месяц. Між тым, на прадпрыемстве, нягледзячы на новыя сучасныя тэхналогіі, багата цяжкай ручной працы, даволі шкодныя ўмовы.

Гарадзенскія сьпецыялісты мелі цудоўную магчымасьць абагульненьня і параўнаньня польскай сістэмы прыватызацыі з нашай. У гэтым сэньсе плён семінару несумненны.

**Х.КАМЕНСКІ.**




**На здымку: станцыя абслугі аўтатранспарту TOYOTA MOTOR POLAND CO. у Ольштыне.**

## ЛЕТУВА ДА СНД НЕ ДАЛУЧЫЦЦА

Пра гэта заявіў прэзідэнт краіны Альгірдас Бразаўскас з нагоды падачы Летувой афіцыйнай заяўкі на ўступленьне ў Раду Эўропы. Працэдура разгляду заяўкі і прыняцьця краіны ў склад гэтай аўтарытэтнай арганізацыі зойме 2,5-3 гады. Па словах прэзідэнта, галоўная ўмова для прэтэндэнтаў у Раду Эўропы - усталяваньне добрасуседзкіх адносінаў з суседнімі краінамі - Летувой выканана. Ніякіх тэрытарыяльных ці іншых спрэчак з Беларусьсю, Расеяй, Польшчай ці Латвіяй краіна ня мае.

**Р.ВІТКУС.**

## ВЫБАРШЧЫКАЎ ПАДМАНВАЮЦЬ І Ў ПОЛЬШЧЫ

У мінулую суботу Вышэйшы суд Польшчы паставіў кропку ў скандале, які разгарэўся з нагоды падману Аляксандрам Квасьнеўскім выбаршчыкаў у перадвыбарчай кампаніі. Нагадаем, што новаабраны прэзідэнт суседняй краіны ў сваіх прамовах неаднаразова сьцьвярджаў, што мае вышэйшую адукацыю. Аднак адразу пасьля выбараў высьветлілася, што, адвучыўшыся пяць году Гданьскім універсітэце, сп.Квасьнеўскі яго так і ня скончыў, кінуўшы апошні курс, каб заняцца палітыкай. У Вышэйшы суд краіны зьвярнуліся каля 600 тысячаў выбаршчыкаў, на думку якіх гэты падман істотна паўплываў на вынік галасаваньня і што чалавек, які шляхам падману заняў вышэйшую ў краіне пасаду, ня мае права рэпрэзентаваць Польшчу. Тым ня менш, 9 сьнежня Вышэйшы суд краіны прызнаў, што падставаў для перагляду вынікаў прэзідэнцкіх выбараў няма. 23 сьнежня Аляксандр Квасьнеўскі прынясе прысягу. Аднaчасова з рашэньнем суда, пачалі ляцець галовы прыхільнікаў Леха Валэнсы. Выдаўцом «Жыце Варшавы» зьняты з пасады галоўны рэдактар папулярнай газеты сп. Болек . Прычына - празьмерная агітацыя на старонках газеты за Леха Валэнсу. У адказ калектыў рэдакцыі абвясьціў страйк.

**В.Р.**

## РУСКІЯ САЛДАТЫ ВЫБІРАЮЦЬ ЧАЧЭНСКАГА ПРЭЗІДЭНТА

**Нягледзячы на тое, што парламанцкія выбары ў Расеі прызначаныя на 17 сьнежня, у Чачні галасаваць пачалі ўжо з учарашняга дня. Арганізаваныя расейцамі ў разбуранай каўказскай рэспубліцы выбары вельмі нагадваюць «народнае волевыяўленьне» у пасьляваеннай Эўропе, калі ва ўсіх занятых савецкімі войскамі краінах да ўлады прыйшлі «патрэбныя» прабальшавіцкія ўрады. Так, права выбіраць дэпутатаў ад Чачні ў расейскі парламант і нават права абіраць прэзідэнта рэспублікі атрымалі расейскія салдаты! Пры гэтым галасаваць можна на любым выбарчым участку і ў любы дзень з 14 па 17 сьнежня! Сьпісы выбаршчыкаў фактычна адсутнічаюць, бо ўлік уцекачоў і загінуўшых ніхто ня вёў.**

У тым, што вынікі выбараў будуць сфальсіфікаванымі - не сумняваецца ніхто. Прымаць удзел у іх будуць толькі тыя, хто падтрымлівае дзеяньні расейскага ўраду ў Чачні - вайскоўцы ды прывезеныя з Масквы члены «марыянетачнага» ураду. Прыхільнікі Дудаева, а гэта большасьць мясцовага насельніцтва, настойваюць на правядзеньні выбараў кіраўніка краіны толькі пасьля вываду акупацыйных войскаў. Але тады ўвесь сьвет убачыць, што Чачня і сёньня, пасьля года крывавай вайны, не жадае вяртацца ў склад Расеі, а гэта зусім супярэчыць жаданьням расейскіх палітыкаў.

Зыходзячы з гэтага, можна сьмела сьцьвярджаць, што пры любым зыходзе выбараў у Расеі і Чачні гэтая «гарачая кропка» яшчэ доўга будзе крывавіць на мапе «старэйшага брата».

**В.ДРЭМА.**

## ЗЛОТЫ ЗАМЕНІЦЬ ДОЛАР?

**Ня выключана, што з 1 студзеня ўзаемаразлікі паміж Беларусьсю і Польшчай можна будзе праводзіць у польскіх злотых.**

Пад час нядаўняга візіту Міхаіла Чыгіра ў Польшчу (яго суправаджаў і Аляксандр Дубко) гэтае пытаньне ўздымалася на сустрэчы з прэм'ерам суседняй дзяржавы Юзэфам Алексым. Аднак да падпісаньня канкрэтнай дамовы справа не дайшла. На думку некаторых польскіх сьпецыялістаў, выпуск злотага ў «міжнародныя воды» ўскладніць кантроль за колькасьцю грошай на рынку, што прывядзе да росту інфляцыі. Адмовіліся палякі і ад узаемаразлікаў у беларускіх рублях.

Не пайшоў польскі бок і на зьмяншэньне мытных падаткаў на некаторыя беларускія тавары, увоз якіх у Польшчу абмяжоўваецца. Размова, у першую чаргу, ішла пра лядоўні і трактары. Што датычыць падпісаных пад час візіту Чыгіра іншых дакумантаў (аб мытным супрацоўніцтве, узаемным прызнаньні сертыфікатаў і знакаў адпаведнасьці, турызме, супрацоўніцтве ў галінах навукі і культуры) то, на думку большасьці польскіх сьпецыялістаў і журналістаў, хуткага плёну ад іх чакаць нельга, бо разрыў у эканамічным разьвіцьці краін павялічваецца з кожным днём. І не на карысьць Беларусі.

**Вінцэнт АНІМУЦКІ.**

## СЕЛЯНІН НА БІРЖЫ ПРАЦЫ

**У Салечніцкім раёне Летувы поўным ходам ідзе роспуск сельгаставарыстваў. Першым разыйшлося таварыства «Малаконіс». Меней, чым за год прадалі памяшканьні, склад, выплацілі запазычанасьці, падзялілі на паі тэхніку і... пайшлі на біржу працы. Там ужо сотнямі налічваюцца трактарысты, даяркі, кіроўцы. Раней лічылася, што вёска корміць горад, а сёньня з 1860 беспрацоўных раёну палова - сельскія жыхары. Але ж гэта ліквідавалася толькі адно сельгаставарыства. У стадыі ліквідацыі яшчэ сем.**

Гэта вельмі хваравіты працэс, асабліва для буйных гаспадарак. Працэс ліквідацыі зацягваецца на гады. Таварыстві не працуюць, працэнты па запазычанасьці і штрафы растуць, паі ў сувязі з гэтым рэзка зьмяншаюцца. Шмат хто і зусім нічога не атрымае. Разам з тым, пакуль чалавек не атрымаў пай, яго не зарэгіструюць на біржы, бо мякць права на рэгістрацыю толькі тыя, чый пай менш адпаведнай сумы. А атрымаць паі людзі змогуць, калі будуць прададзены грамадзкія будынкі, склады, кароўнікі і г.д. А пакупнікоў на іх няма. Продаж можа зацягнуцца на год, два, тры. Людзі вымушаны будуць жыць з тых трох гектараў зямлі, якія выпадаюць на чалавека і з міласьці тых, хто ўрваў каня ці трактар. Сёлета ў раёне 13 тысяч працаздольных сялян. У выніку распаду сямі таварystваў на біржы працы можа апынуцца да 5 тысяч беспрацоўных сялян.

**Яраслаў ГРЫНЬКЕВІЧ.**

## НЯЎЖО РАСЕЙЦЫ БУДУЦЬ ГАСПАДАРЫЦЬ НА БЕЛАРУСКІМ РЫНКУ?

А.Лукашэнка падпісаў Указ «Аб стварэньні і дзейнасьці ў рэспубліцы гаспадарчых груп». Як адзначаецца ва ўказе, гэта зроблена «у мэтах павышэньня эфектыўнасьці вытворчасьці, усталяваньня рацыянальных эканамічных і тэхналагічных сувязяў, прываблiваньня інвестыцый у эканоміку Беларусі».

Прадбачыцца, што на тэрыторыі рэспублікі будуць створаны фінансава-прамысловыя ды іншыя гаспадарчыя групы з удзелам юрыдычных асоб - рэзідэнтаў Рэспублікі Беларусь, Расейскай Федэрацыі ды іншых дзяржаў. На думку экспэртаў, зьяўленьне гэтага ўказу ў першую чаргу выгадное буйным расейскім фінансава-прамысловым групам, і сьведчыць аб тым, што вышэйшыя беларускія кіраўнічыя структуры знаходзяцца ў моцнай залежнасьці ад Расеі. Эксьперты не выключаюць, што вынікам указу можа стаць тое, што расейскія прадпрыемствы ўзаконяць сваё дамінуючае становішча на беларускім рынку.

## АДКРЫТЫ ЛІСТ БЕЛАРУСКАГА ФОНДУ СОРАСА ДА А.ЛУКАШЭНКІ

Выканаўчы дырэктар Беларускага Фонду Сораса Пітэр Бэрн накіраваў адкрыты ліст А.Лукашэнку. Нагодай сталі выказваньні прэзідэнта ў адносінах да Фонду на нядаўняй сустрэчы з журналістамі.

У лісьце, у прыватнасьці, адзначаецца: «Выклікае зьдзіўленьне, што апошнім часам дзейнасьць нашай рэспубліканскай грамадзкай арганізацыі асацыюецца ў многіх адно з падтрымкай сродкаў масавай інфармацыі. З газеты ў газету, з выступленьня ў выступленьне «качуе» сьпіс выданьняў, агенцтваў і радыёстанцый, падтрыманых Фондам толькі ў 1994 годзе. Перапыняючы гэтую дзіўную традыцыю, мы прапануем вам азнаёміцца са сьпісам газет і часопісаў, якія атрымалі фінансавую падтрымку Фонду ў 1995 годзе. Гэта часопісы: «Мастацтва», «Акно», «Маладосьць», «Полымя», «Калосьсе», «Першацвет», «Сьвіцязь», «Годнасьць», «Спадчына», «Нёман», «Крыніца», «Роднае слова», спартовы штотыднёвік «Прэсс-бол», штотыднёвік «Літаратура і мастацтва», газеты «Пагоня», «Брестский курьер», «Беларуская маладзёжная», «Культура»».

Спадар Бэрн таксама паведаміў, што «Мас-медыя» - не адзіная і не самая дарагая праграма Беларускага Фонду Сораса. За першыя тры кварталы 1995 года на падтрымку сродкаў масавай інфармацыі было выдаткавана каля 80 тысяч долараў ЗША, у той час, як на праграму па экалогіі - 210 тысяч, на культурныя і выдавецкія праекты - больш за 320 тысяч, на адукацыю - больш за 1 мільён 300 тысяч долараў. Усяго з пачатку 1995 года Беларусь бязвыплатна атрымала больш за 4 мільёны долараў, якія належаць Джорджу Сорасу. «Нягледзячы на негатыўныя адзнакі працы Беларускага Фонду Сораса, якія прагучалі ў апошні час, супрацоўнікі Фонду ўпэўнены, што гэтыя выпады - усяго толькі вынік недастатковай інфармаванасьці ці нейкага непаразуменьня», -адзначаецца ў адкрытым лісьце.

**СІМ**

## УКРАІНА

СІМФЕРОПАЛЬ

Павышэньня і своечасовай выплаты зарплаты выкладчыкам і стыпендыяў навучэнцам патрабавалі ўдзельнікі пікету перад будынкам прадстаўніцтва прэзідэнта Украіны ў Крыме.

Пікетчыкі лічаць, што зарплата настаўнікаў павінна быць ня менш зарплаты працаўнікоў прамысловых прадпрыемстваў, а стыпендыя навучэнцаў - не ніжэй «рысы малазабясьпечанасьці». Удзельнікі акцыі пратэсту патрабавалі таксама пры фармаваньні бюджэту на 1996 год забясьпечыць фінансаваньне ўстаноў адукацыі і навукі «па неабходных нормах». Пікет прайшоў 12 сьнежня ў межах агульнаукраінскай акцыі настаўнікаў. У ім прынялі ўдзел каля 300 навучэнцаў і працаўнікоў адукацыі. Па словах старшыні рэспубліканскага камітэту Прафсаюзу працаўнікоў адукацы і навукі Сафіі Сідаравай, у той жа дзень мітынгі настаўнікаў прайшлі ў Феадосіі і Бахчысараі. У Еўпаторыі і Ялце адбыліся сустрэчы актыву працаўнікоў адукацыі з прадстаўнікамі мясцовых адміністрацый.

## РАСЕЯ

МАСКВА

«Прэзідэнт спачатку гаворыць, пасьля - думае, пасьля яму дапаможцы тлумачаць, што ён думае», - лічыць лідар Камуністычнай Партыі Расейскай Федэрацыі Г.Зюганаў.

Такое меркаваньне ён выказаў 12 сьнежня на сваёй сустрэчы з выбаршчыкамі ў тэатры «Садружнасьць актораў Таганкі». Ён таксама заявіў, што ў Віктара Чарнамырдзіна відавочна «поехала крыша», бо «куда ни поедешь, везде его крыша». На думку Г.Зюганава, «дом надо строить с фундамента, а не с крыши».

На сустрэчы Г.Зюганаў пералічыў асноўныя пастулаты перадвыбарчай праграмы камуністаў. Ён заявіў, што трэба зьмяніць курс на такі, каб было выгадна працаваць, акрамя таго, зьмяніць трэба і прыярытэты эканамічнай палітыкі. Ён лічыць, што патрэбна адрасная сацыяльная падтрымка і канкрэтныя меры па барацьбе са злачыннасьцю. На яго думку, трэба «восстановить связи» з Украінай, Беларусьсю і Казахстанам.

На пытаньне, на якія сродкі будзе ажыцьцяўляцца «адрасная сацыяльная падтрымка», Зюганаў адказаў, што калі камуністы прыйдуць да ўлады, усе будуць добра працаваць, бо кіраўніцтва зьнізіць падаткі.

**«Э.-Х.»**

 

